БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА
BELARUSIAN INSTITUTE OF ARTS AND SCIENCES

# ТУРЭЦКА-БЕЛАРУСКІ РАЗМОЎНІК 1836 ГОДУ

**з збораў**

**Нацыянальнага Музэю**

**Літоўскай Рэспублікі ў Вільні**

•

TURKISH-BELARUSIAN PHRASE-BOOK OF 1836

•

TÜRKÇE-BELARUSÇA KILAVUZ YIL = 1836

•

**NEW YORK**

**1995**

# ТУРЭЦКА-БЕЛАРУСКІ РАЗМОЎНІК 1836 ГОДУ З ФОНДАЎ НАЦЫЯНАЛЬНАГА МУЗЭЮ ЛІТОЎСКАЙ РЭСПУБЛІКІ (№ 42)

Сярод усіх ведамых дагэтуль помнікаў пісьменства беларускіх татараў, створаных у беларускай мове на графічнай аснове арабскага альфабэту, прапанаваны тут увазе шаноўных чытачоў рукапіс вылучаецца сваёй унікальнасьцю. Сярод дзясяткаў кітабаў, тэфсіраў, хамаілаў і зборнікаў іншага роду, ён адзіны прадстаўляе жанр слоўнікаразмоўніка, практычна-дыдактычнага дапаможніка, значэньне якога выходзіць за межы замкнёнай этнарэлігійнай супольнасьці беларускіх татараў. І сапраўды, гэты слоўнік, які налічвае ў сабе каля 1000 лексычных адзінак у кожнай зь дзьвюх частак — беларускай і турэцкай — можна лічыць адною зь першых лексыкаграфічных працаў у гісторыі новай беларускай мовы. Важнасьць ягоная тым большая, што ён быў створаны ў часе, калі беларуская мова рэдка ўшаноўвалася пісьмоваю фіксацыяй, дый тыя тэксты, што знаходзілі сабе дарогу на рукапісныя й друкаваныя старонкі, у пераважнай большасьці ўяўлялі сабою запісы фальклёру. І таму ня можа быць абыйдзены ўвагаю помнік, у якім пісанае беларускае слова было не пасіўным аб'ектам рамантычнага сузіраньня, а хавала ў сабе зарад функцыянальнае прыдатнасьці й прагматызму, дапамагала чалавеку ў вырашэньні жыцьцёвых праблемаў, а таксама было мастком да іншых культураў, прыладаю пашырэньня індывідуальнага сусьвету.

Турэцка-беларускі размоўнік (цяпер перахоўваецца ў Аддзеле рукапісаў Нацыянальнага Музэю Літоўскай Рэспублікі, №42 паводле вопісу Караімскага Музэю, адкуль ён паступіў) быў створаны, на думку А.Антановіча, не раней за 1836 год у Слоніме Мустафой Шагідзевічам (Ант., 90-91). Меркаваньне аб аўтары й месцы напісаньня грунтуецца на супадзеньні почыркаў размоўніка й Кітаба №39 з збораў таго самага

музэю: у Кітабе дакладна зазначаныя аўтар, дата й месца стварэньня. Дата ўзьнікненьня размоўніка была прыблізна вызначаная паводле вадзяных знакаў «18—36» на паперы рукапісу. Прыняўшы да ўвагі гэтую часавую мяжу, пры немагчымасьці больш дакладна датаваць помнік, у гэтай публікацыі дзеля зручнасьці мы ўмоўна называем яго «Турэцка-беларускі размоўнік 1836 году».

Сам жанр турэцкага слоўніка-размоўніка на нашых землях і ў нашых суседзяў не ўяўляе сабою нешта выключнае для таго часу. Зазначым, што ў Рэчы Паспалітай ужо ў 1615 годзе пабачыла сьвет першая спроба турэцка-полькае практычнае лексыкаграфіі — «Dictionarz Turecki o Bogu i ŚŚ. Jego, o niebie i o żywiołach, o dniach i czasiech wszelakich, o człowieku i członkach jego, o sprawach i rzeczach potocznych etc. przez Marcina Paszkowskiego» (Zajączkowski, 5). У Расеі ў канцы XVIII — пачатку XIX стст. зьявіліся дзясяткі рукапісных і друкаваных глясарыяў, вакабулярыяў, слоўнікаў, размоўнікаў і іншых лінгвістычных дапаможнікаў для тых, хто меў патрэбу ў знаёмстве з турэцкай моваю (Кононов, 87-98). Найчасьцей спажыўцамі такой літаратуры былі ўдзельнікі ваенных дзеяньняў Расеі супраць Турцыі, што вызначала яе спэцыфічную прафэсійна-тэрміналягічную скіраванасьць. Ня дзіва, што адным з найлепшых лексыкаграфічных выданьняў з гэтага шэрагу былі «Основные правила турецкаго разговорнаго языка. Карманная книга для русскихъ воиновъ въ турецкихъ походахъ» О.Сянкоўскага, Ч.1-2. СПб., 1828-1829.

Выразным кантрастам паводле зьместу да расейскай ваенна-лінгвістычнай літаратуры выступае размоўнік М.Шагідзевіча. Першую згадку пра яго падаў Сьцяпан Туган-Мірза-Бараноўскі ў апісаньні збору рукапісаў у Муфціяце ў Вільні (RT, 1, 314-315). Размоўнік быў апісаны А.Антановічам у ягонай манаграфіі, дзе падаецца кароткая характарыстыка рукапісу і ўзоры тэксту (Ант., 90-93).

Тэматыка зьмешчанага ў турэцка-беларускім размоўніку матэрыялу даволі шырокая й разнастайная. Яна можа стацца крыніцаю зьвестак аб сацыяльна-эканамічным статусе беларускіх татараў, міграцыйных працэсах, характары іх дзейнасьці й занятках на тэрыторыі Асманскай імпэрыі. У размоўніку прадстаўленыя гэткія тэматычныя разьдзелы (у дужках — старонкі рукапісу): гандлёвыя кантакты (2б, 6б, 8а), знаёмства (3а), мова й рэлігія (5а), чалавек і часткі цела (5б-6а), будаўніцтва (7а), сельскагаспадарчыя работы (7а-7б, 12б), падзённая наёмная праца (8а-8б), наём фурманкі й падарожжа (8б-9б), жывёльны сьвет і паляваньне (9б-10а), адзеньне (10а, 13б), прыродныя зьявы (10б, 12а), харчаваньне, посуд (11а-11б, 14а), конь (11б), збожжа й харчовыя прадукты (13б), ваенная справа (14а-14б), забавы (15б), лічэбнікі (16б), дні тыдня (17а), прадметы побыту (17б), пошукі працы й жытла (18а-

18б), прывітаньні (19а), грошы (19б), падарожжа праз Малдову (20а-20б). Асобнае ўвагі заслугоўваюць дзьве апошнія старонкі рукапісу — яны ўяўляюць сабою румынска-беларускі размоўнік з наборам самых патрэбных фразаў, неабходных пры «транзытным» праезьдзе праз Малдову й Валахію.

Цяжка сказаць нешта пэўнае пра паходжаньне й крыніцы размоўніка. Можна пагадзіцца з А.Антаноівічам, што перад намі арыгінальны твор, а ня сьпіс зь іншага (Ант., 91). Пра гэта сьведчаць лякуны як у турэцкай, так і ў беларускай частцы, прычым некаторыя зь іх запоўненыя пазьней іншай рукою. Некаторыя недакладнасьці й адвольнасьці ў перакладзе лексычных і граматычных значэньняў дазваляюць прыпушчаць удзел у стварэньні размоўніка турэцкага інфарманта, які мог недастаткова валодаць беларускай мовай. На старонках 13б-16а і 17а-18а мовы «мяняюцца месцамі», там загалоўнымі словамі выступаюць беларускія лексычныя адзінкі, да якіх падбіраюцца турэцкія эквіваленты. Зварачаюць на сябе ўвагу відавочна архаічныя лексэмы (асабліва ваеннае тэрміналёгіі: *дзида* 14а, *палаш* 14а, *лук* 14а, *стрелка* 14а, *фузийа* 14а, *крук* 14б), іх прысутнасьць не выключае выкарыстаньня аўтарам нейкіх даўнейшых крыніцаў.

## Палеаграфічныя зьвесткі

Рукапіс напісаны ў сшытку з 22 аркушаў фармату 11,5 х 18 см, сшытым уручную льнянымі ніткамі, безь пераплёту. Папера пажоўклая, на ёй выяўляецца вадзяны знак ў выглядзе герба «Гурко» (Herbarz, I, 220). Абапал герба на аднолькавай адлегласьці пазначана прозьвішча «L.Hurko», а на с. 22а стаіць пячатка зь ініцыяламі «L.H.». Чарніла бурае, месцамі прасочваецца на адваротны бок аркуша. Фаліяцыя аркушаў (ужытая ў гэтай публікацыі для пазначэньня старонак: а - пярэдняя, б - адваротная адпаведнага аркушу) пазьнейшая сінім алоўкам (ад арк. 6 — простым алоўкам). Тым самым сінім алоўкам на вокладцы (1а) напісана: «Принадлежитъ Шегидевичу», тамсама стаіць пячатка Муфціяту Рэчыпаспалітай Польшчы: «Mufti na Rzeczpospolitą Polską». Пячатка стаіць таксама на старонках 3б, 4б, 17а, 21а, 23б.

Аб'ём размоўніка — 36 старонак, зь якіх 34 (2б-20б) напісаныя рукою Мустафы Шагідзевіча. Старонкі 4а-4б і 21а-22б пакінутыя пустымі. Старонкі 3б, 6б, 13а, 16а, 19а, 19б, 20а запоўненыя не да канца. На старонцы — ад 4 да 8 здвоеных радкоў, якія складаюцца з паралельнага турэцкага й беларускага тэкстаў, часам паасобныя разьдзелы аддзяляюцца гарызантальнымі лініямі. На с. 9б лініямі выдзелены загаловак *терас инша ґатунек мова йест.* У ніжнім левым куце адваротных бакоў аркушаў 5-17 запісанае першае слова наступнага аркуша.

Тэкст напісаны старанна й акуратна, чытаецца лёгка.

Старонкі 1б і 2а напісаныя адпаведна двума іншымі почыркамі. 2-гі пісар (1б) разьмяшчае матэрыял слупочкамі й аддзяляе паасобныя словы вэртыкальнымі й гарызантальнымі лініямі. На гэтай старонцы зьмешчаныя паасобна выбраныя лексэмы з асноўнага корпусу размоўніка.

3-ці пісар (2а) разьмяшчае турэцкі тэкст роўным радком, пад якім наўскос падаюцца беларускія адпаведнікі. Беларуская мова гэтага пісара вылучаецца значнай колькасьцю русізмаў. Ягонаю рукою зробленыя таксама прыпіскі да тэксту М.Шагідзевіча на сс. 3а, 3б, 7б, 17б, 19б.

## Моўныя асаблівасьці помніка

Аналіз асаблівасьцяў мовы беларускага тэксту размоўніка М.Шагідзевіча пацьвярджае меркаваньне аб тым, што ён быў укладзены ў Слоніме на матэрыяле мясцовых гаворак беларускай мовы. Сапраўды, у асноўных сваіх парамэтрах у ім адбіваюцца важнейшыя асаблівасьці гродзенска-баранавіцкай групы гаворак паўдзённа-заходняга дыялекту. Трэба таксама адзначыць значную колькасьць палянізмаў у беларускай частцы размоўніка, якія складаюць да 10% усяго матэрыялу. Ва ўжываньні палянізмаў не заўважаецца ніякай сыстэмнасьці, часта ў іншым месцы ім адпавядаюць паралельныя беларускія формы: *бенде* 8а і *бўду* 2б, 11а; *бендзе* 8б і *бўдзе* 1б, 10б, 13а; *билем* 7б і *бив* 6а, 12а; *велќи* 10а і *велиќи* 1б, 10б; *йензик* 5б і *йазик* 5а. У далейшым разглядзе палянізмы не бяруцца пад увагу, бо праблема ўзаемадзеяньня польскай і беларускай моваў у беларускіх тэкстах арабскае графікі патрабуе асобнага разгляду.

Разгледзім найбольш характэрныя рэгіянальныя асаблівасьці беларускага тэксту размоўніка.

У галіне фанэтыкі:

а) пасьлядоўнае захаваньне этымалягічнага -о ў пасьлянаціскной пазыцыі ў канцавым адкрытым складзе: *балото* 12а, *блиско* 8б, *висехло* 17б, *войско* 14б, *коло* 15а, *место* 14б (ДАБМ, №14);

б) пасьлядоўнае ўжываньне -о на месцы -е у канцавым адкрытым складзе ў форме назоўна-клічнага склону адзіночнага ліку назоўнікаў ніякага роду зь мяккай асновай: *наćено* 5б, *поло* 13б, *одзено* 6б, *йедзено* 11а, *моро* 15а, *збожо* 12б, *здаровйо* 19а (ДАБМ, №17);

в) ужываньне -о ў ненаціскным канчатку назоўнага склону адзіночнага ліку прыметнікаў ніякага роду: *хмурнойо* 12а, *сухойо* 12б, *тойо* 9а (ДАБМ, №115);

г) адсутнасьць падваеньня зычных на месцы старога спалучэньня -ньj- : *наćено* 5б, *одзено* 6б, *йедзено* 11а.

У галіне марфалёгіі:

а) утварэньне 2-ой асобы множнага ліку загаднага ладу дзеясловаў I спражэньня на -еце: *не кричеца* 18а, *идзеце* 20а (ДАБМ, №170);

б) пасьлядоўнае ўжываньне 3-яй асобы адзіночнага ліку цяперашняга часу дзеяслова ‘быць’ у форме *йест* (ДАБМ, №165);

в) форма на -о назоўніка мужчынскага роду тыпу ‘бацька’: *дзацко* 15б (ДАБМ, №91);

г) ужываньне вышэйшай ступені прыметнікаў з суфіксам -ш-: *душши* 11а (ДАБМ, №130).

У галіне лексыкі:

Ужываньне лексэмаў *сталавано* 7а ‘сталяваньне’ (ДАБМ, №228), *кузака* 10а ‘кузурка’ (ЛА, 1, №365), *вугол* 14а ‘вугóль’ (ДАБМ, №190), *йаблик* 13б (ДАБМ, №107), *веле* 1б, 6б ‘шмат’ (СПЗБ, 1, 294).

Аналіз адпаведных ізаглёсаў дазваляе даволі дакладна лякалізаваць месца бытаваньня зафіксаванай у размоўніку гаворкі паўдзённым захадам цяперашняй Гарадзенскай вобласьці ўлучна з Слонімам.

У гэтай працы ня ставілася задачы вырашаць цюркалягічныя праблемы помніка. Аднак нават самы павярхоўны аналіз турэцкае часткі размоўніка выяўляе, што фанэтычная, марфалягічная, сынтаксычная й лексычная сыстэмы тэксту далёкія ад нормаў літаратурнай турэцкай мовы разгляданага пэрыяду.

Шэраг моўных асаблівасьцяў турэцкае часткі (выпадзеньне інтэрвакальных *-ğ-*, *-y-*: *acı* < *ağacı*, *yamur* < *yağmur*, *er* < *eyer*; пераход пачатнага *ö-* ў *ü-*: *ürdek* < *ördek*, *üldü* < *öldü*; зьяўленьне пратэтычнага *y-* перад *ü-*: *yüzinü* < *üzünü*, *yüzüm* < *üzüm*; прагрэсыўная асыміляцыя санорных: *dinne* < *dinle*; інфінітыў на *-maya/-meye*: *olmaya*, *cıkmaya*, *keçmeye*; асаблівасьці лексыкі: *grah*, *budka*; нехарактэрныя для турэцкай мовы сынтаксычныя канструкцыі: *var mı onda beygir,; yoktur yamur; yok mı adam ruşça bilen*) дазваляюць выказаць меркаваньне, што сааўтар або інфармант укладальніка размоўніка быў носьбітам аднаго з балканскіх дыялектаў турэцкае мовы з прыблізнай лякалізацыяй на ўсходзе цяперашняй Балгарыі (Kowalski; Németh). Гэтае меркаваньне ўскосна пацьвярджаецца й сустраканай у тэксьце тапанімікай

Тэкст на румынскай (у тэрмінах размоўніка — малдаўскай) мове вылучаецца фанэтычнымі й граматычнымі недакладнасьцямі й, відаць, запісваўся на слых ад чалавека, для якога румынская мова ня родная. Ім мог быць, напрыклад, турэцкі інфармант, які ўдзельнічаў у складаньні турэцка-беларускай часткі размоўніка.

Нягледзячы на некаторыя недакладнасьці ў перадачы лескычных і граматычных значэньняў, укладальнік Турэцка-беларускага размоўніка 1836 году даволі пасьпяхова справіўся з сваёй задачай, і размоўнік уяўляе сабою даволі каштоўны на той час дапаможнік для чалавека, якога жыцьцёвыя абставіны змушалі да падарожжа ў Турцыю.

## Графіка-правапісныя асаблівасьці

З гледзішча графіка-правапіснай сыстэмы Турэцка-беларускі размоўнік 1836 году у цэлым не адрозьніваецца ад іншых беларускіх помнікаў арабскае графікі тае пары. Правапісныя прынцыпы вытрыманыя даволі пасьлядоўна, за выключэньнем некатарых літараў не назіраецца істотных ваганьняў або варыянтнасьці ў перадачы паасобных гукаў.

Абазначэньне зычных гукаў.

Палятальныя/непалятальныя зычныя пасьлядоўная перадаюцца парамі выразна супрацьпастаўленых графэмаў:

*т* і *ц'* — ط і ڝ; *д* і *дз'* — د і ڗ; *к* і *к'* — ق і ك; *с* і *с'* — ص і س/ث; *з* і *з'* — ظ/ض і ز. Адхіленьні ад гэтага прынцыпу вельмі рэдкія: *чловеќ* 8а2, *привеѓ* 6а4, *злоѓих* 9а2, *злоѓо* 13б3, *писталеѓ* 14б1, *дзевчаѓа* 16а3, *туѓ* 19б1. У расейскіх словах *т'* і *д'* абазначаюцца літарамі ت і د: *покажиѓе* 2а, *ѓосподин* 2а1.

*с'* у абсалютнай бальшыні выпадкаў перадаецца праз س.; ث выступае 12 разоў у ідэнтычнай пазыцыі — у складзе зваротнай часьціцы *-će* (5а2, 6а3, 6а6, 6а4, 6а7, 6б5, 9а6, 10б4, 11б1, 13а1, 13а1, 14б3). Літара ڛ у помніку не засьведчаная.

Найбольш ваганьняў сустракаецца ў перадачы гуку *з*, колькасьць выпадкаў ужываньня ظ/ض разьмяркоўваецца амаль пароўну, прычым ض часьцей выступае ў пазыцыі перад галоснымі гукамі, ظ — перад зычнымі.

Літары ڝ і ڗ абазначаюць таксама й непалятальныя *ц* і *дз* (апошняе ў палянізмах).

Даволі часта на пісьме перадаецца аглушэньне звонкіх зычных на канцы слова: *йец* 1б, 9а, 13а; *нош* 11б.

Часта, пад уплывам графічных і фанэтычных асаблівасьцяў турэцкае мовы ў беларускім тэксьце назіраюцца ваганьні ў перадачы гукаў *б/п* і *ч/дж* (Ант., 217, 241): *бост* 3а, *бўсци* 3а, *джаго* 18а.

Асаблівасьцю разгляданага рукапісу зьяўляецца даволі частае ўжываньне для абазначэньня гуку *ж* літары ژ побач з ز. Можна нават сьцьвярджаць што ў выпадках ужываньня ز апошняе часта вельмі цяжка адрозьніць ад ژ, асабліва ў канцавой пазыцыі. Наяўнасьць гэтай не засьведчанай А.Антановічам літары ў беларускіх тэкстах арабскае графікі адзначаюць у сваіх публікацыях іншыя дасьледнікі (Nadson, Meredith-Owens; Drozd).

Сярод асаблівасьцяў абазначэньня галосных гукаў можна адзначыць вельмі частае ўжываньне для гуку *а* замест аліфа з фатхой вэртыкальнае фатхі (гэты спосаб абсалютна пераважае ў спалучэньні зь літарамі ذ, ز і ژ), а таксама вэртыкальнае кясры пад канцавым ی.

Трансьлітарацыя беларускага тэксту была праведзеная паводле прынцыпаў, распрацаваных А.Антановічам у ягонай манаграфіі «Белорусские тексты, писанные арабским письмом, и их графико-орфографическая система» (Ант., 192-194).

Улічваючы дыялектны характар турэцкага тэксту, пры трансьлітарацыі было вырашана максымальна захаваць усе ягоныя фанэтычныя асаблівасьці, пазьбягаючы мадэрнізацыі і уніфармізацыі. Трэба зазначыць, што ў тэксьце назіраецца нямала адхіленьняў ад стандартнага турэцкага правапісу, асабліва гэта датычыць правапісу зычных — у тэксьце вельмі часта парушаецца прынцып залежнасьці выбару літараў для абазначэньня зычных гукаў ад нёбнага сынгарманізму ў межах аднаго слова. Альтэрнатыўныя пары літараў ط і ت, ص і س, ق і ك, ض і ز ужываюцца адвольна й непасьлядоўна як у словах з галоснымі пярэдняга, гэтак і задняга раду. Таму пры трансьлітарацыі кожная з гэтых параў перадавалася адзіным знакам: t, s, k, z.

Нёбны сынгарманізм, не перададзены ў тэксьце дзеля непасьлядоўнасьці ўжываньня зычных літараў, адноўлены паводле нормаў стандартнай турэцкай літаратурнай мовы..

Спосабы перадачы ў трансьлітарацыі паасобных гукаў паказаныя ў табліцы на с. 10-11.

Да трансьлітарацыі румынскага тэксту былі ўжытыя тыя самыя прынцыпы, што й для беларускага.

| Трансьл. тур. | Трансьл. бел. | Гукавае значэньне (бел.) | ізаляваная | канцовая | сярэдняя | пачатная |
|---|---|---|---|---|---|---|
| - | - | ’ | | | ـا | ا |
| b | б | б, б’ | ب | ـب | ـبـ | بـ |
| p | п | п, п’ | پ | ـپ | ـپـ | پـ |
| t | т́ | т’ | ت | ـت | ـتـ | تـ |
| s | ć | с’ | ث | ـث | ـثـ | ثـ |
| c | дж | дж | ج | ـج | ـجـ | جـ |
| ç | ч | ч | چ | ـچ | ـچـ | چـ |
| h | х | х, х’ | ح | ـح | ـحـ | حـ |
| h | — | — | خ | ـخ | ـخـ | خـ |
| d | д | д, д’ | | | ـد | د |
| z | — | — | | | ـذ | ذ |
| j | ж̣ | ж | | | ـڎ | ڎ |
| — | дз | дз, дз’ | | | ـࢮ | ࢮ |
| r | р | р | | | ـر | ر |
| z | ź | з’ | | | ـز | ز |
| j | ж | ж | | | ـژ | ژ |
| s | ċ | с’ | س | ـس | ـسـ | سـ |
| ş | ш | ш | ش | ـش | ـشـ | شـ |
| — | — | — | ڛ | ـڛ | ـڛـ | ڛـ |
| s | с | с | ص | ـص | ـصـ | صـ |
| z | з | з | ض | ـض | ـضـ | ضـ |
| — | ц | ц, ц’ | ڝ | ـڝ | ـڝـ | ڝـ |
| t | т | т | ط | ـط | ـطـ | طـ |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| z | ȝ | з | ظ | ـظ | ـظـ | ظـ |
| ‘ | ‘ | ‘ | ع | ـع | ـعـ | عـ |
| g | ґ | ґ, ґ’ | غ | ـغ | ـغـ | غـ |
| f | ф | ф, ф’ | ف | ـف | ـفـ | فـ |
| k | к | к | ق | ـق | ـقـ | قـ |
| ḳ | ќ | к’ | ك | ـك | ـكـ | كـ |
| ṅ | — | — | ڭ | ـڭ | ـڭـ | ڭـ |
| l | л | л, л’ | ل | ـل | ـلـ | لـ |
| m | м | м, м’ | م | ـم | ـمـ | مـ |
| n | н | н, н’ | ن | ـن | ـنـ | نـ |
| h | г | г, г’ | ه | ـه | ـهـ | هـ |
| v | в | в, в’, ў | | | ـو | و |
| y | й | й | ى | ـى | ـيـ | يـ |

| | | | |
|---|---|---|---|
| a/e | а | а | ـَا |
| a/e | е | э, а | ـَ |
| ı/i | ӣ | і, ы | ـِي |
| ı/i | и | і, ы | ـِ |
| o/ö | о | о | ـَو |
| u/ü | ӯ | у | ـُو |
| u/ü | у | у | ـُ |

Вэртыкальная фатха й вэртыкальная кясра перадаюцца вэртыкальнымі рысамі адпаведна над і пад літарай: а̍, ӣ. ‘Айн (ع) далучае да сябе галосныя падобна літарам для зычных гукаў: على ‘или. Аліф з мадой (آ) перадаецца як ã, зычныя з шадой пазначаюцца хвалькамі над літарай: м̃, н̃, т̃, ц̃.

## КРЫНІЦЫ Й БІБЛІЯГРАФІЯ


Ант. — Антонович А. Белорусские тексты, писанные арабским письмом, и их графико-орфографическая система. Вильнюс, 1968.

Булыка — Булыка А. Лексічныя запазычанні ў беларускай мове XIV-XVIII стст. Менск, 1980.

ГСБМ — Гістарычны слоўнік беларускай мовы. Вып. 1—. Менск, 1982.

ДАБМ — Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. Менск, 1963.

Запісы — Запісы Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. Кн.1—. Нью-Ёрк—Мюнхэн—Нью-Ёрк, 1952—.

Кононов — Кононов А. История изучения тюркских языков в России. Ленинград, 1982.

ЛА — Лексічны атлас беларускіх народных гаворак. Т.1—. Менск, 1993—.

Нас. — Носович И. Словарь бѣлорусскаго нарѣчія. Санкт-Петербургъ, 1870.

СПЗБ — Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча. Т.1-5. Менск, 1979-1986.

Станкевіч — Станкевіч Я. Беларуска-расійскі слоўнік. Нью-Ёрк, 1989.

Bozkurt — Bozkurt F. Türklerin Dili. Istanbul, 1992.

Drozd — Drozd A. Chamaił Sobolewskiego // Rocznik Tatarów polskich. Gdańsk, 1993. S.49-62.

Herbarz — Stupnicki H. Herbarz Polski. T.1-3. Lwów, 1855-1862.

Kowalski — Kowalski T. Les Turcs et la langue turque de la Bulgarie du Nord-Est. Cracovie, 1933.

Nadson, Meredith-Owens — Nadson A., Meredith-Owens G.M. The Byelorussian Tartars and their writings // The Journal of Byelorussian Studies. Vol.II, No.2, Year VI. London, 1970. P.141-176.

Németh — Németh J. Zur Einteilung der türkischen Mundarten Bulgariens. Sofia, 1956.

RT — Rocznik Tatarski. T.1-3. Wilno-Zamość-Warszawa, 1932-1938.

TS — Türkçe Sözlük. T.1-2. Ankara, 1988.

Zajączkowski — Zajączkowski A. Pierwsza próba opracowania języka tureckiego w literaturze staropolskiej. Warszawa, 1938.

[1a]

bismillahi rahmani rahimi

[1б][а]

| | | |
|---|---|---|
| 1 | • sildim | обтар[б] |
| | • makas | ножице[в] |
| | • pançar | бурак |
| | • ben | йа |
| | • ince | тонко |
| | • sen | ти |
| | • al | везьми |
| | • ver | дай |
| 2 | • dur | стой |
| | • duruyur | стайиц |
| | • çabuk | прендко[г] |
| | • yemek[д] | будзем[д] |
| | • var mı vardır | чи йест |
| | • var | йест |
| | • amma | але |
| 3 | • naslı | какой[е] |
| | • sesi | голас |
| | • ol zaman | тагди |
| | • başında | на галаве |
| | • yokdur | немаш |
| | • dur | стой |
| 4 | • naslı | йак |
| | • pek | моцно |
| | • onları | йих |
| | • ol kadar | таки |
| | • çok | много |
| | • daha yacak[ж] | йешче будзе[ж] |
| 5 | • yayaş yayaş | паволи паволи |

[а] Старонка 1б напісана рукою 2-га пісара (гл. с.6) і зьмяшчае паасобныя словы, выбраныя з асноўнага корпусу размоўніка [б] =пол. *obtarł* [в] =пол. *nożyce* [г] =пол. *prędko* [д] Памылкова абсечаная фраза з 11а[2]: *yemek [yelim]* 'ежу [давай будзем есьці]' — *будзем [йеćци]* [е] =рас. [ж] З 10б[7]: *daha yacak* 'яшчэ будзе йсьці дождж'

| | | |
|---|---|---|
| | • odır budur | тойо гето |
| | • lazım | треба |
| | • ne lazım | нашто |
| | • ahça | гроши |
| | • allah smarladık | бивай здаров |
| 6 | • safa keldi hoş keldi | йец здаров |
| | • allah selametler | шчӑслива дарога |
| | • biyük | велиќи |
| | • küçük | малӣ |
| | • olmaya[а] | треба[а] |
| 7 | • çabuk çabuk | прендзей прендзей[б] |
| | • üzerinde | наверхў |
| | • unuttum | запомнав[в] |
| | • kerek dilerse[г] | кали хочеш[г] |
| 8 | • olmaz | нелз́а[д] |
| | • küç | трўдно |
| | • ‘aklım kayattı | роз̣ўм з̣гўбив |
| | • uldu | стало |
| | • dürlü dürlü şey satarlar | веле речей предайўц |
| | • kerek | тогда[е] |
| | • bildim | з̣найў |
| | • bilmedim | не з̣найў |
| | • olmadı | не стало |
| | • layık | приличний, способний, з̣начителнйй[ж] |

[2a][з]

| | | |
|---|---|---|
| 1 | • efendim bana kösterseniz fabrika tophane urda var yahya | ґосподин покажит́е мне фабрикў топхан[і] там йест йахйа[к] |
| 2 | • efendi risimci bu ‘atları süzi ulsa | ґосподин хўдожник тў имона слово бўдет |

---

[а] Памылкова абсечаная фраза з 7б[7]: *[lazım satın] olmaya* дасл. ‘[трэба ку́плю] ўзяць’ — *треба [купиц]* [б] =пол. *prędzej* [в] тур. 1 sg.; *запомнав* < пол. *zapomniał[em]* [г] тур. 3 sg. [д] =рас. [е] =рас. [ж] =рас. [з] Старонка 2а напісаная рукою 3-га пісара (гл. с.6) [і] < тур. *tophane* ‘арсэнал, артылерыйскі завод’ [к] Уласнае імя

| | | |
|---|---|---|
| 3 | • qa‘dun[а] | ѐиденийе |
| | • qu‘ūdun[б] | ѐиденийе |
| | • qa‘ada[в] | ѐидеѓ |
| | • agzı | рот |
| | • burunu | нос |
| | • yüzinü | лицо, твар |
| 4 | • teni | стан |
| | • tugrı[г] | |
| | • yapragı | лист |
| | • kü[be]ki[д] | пӯп |
| | • kübeg | пӯп |
| | • yelime | йеѐце[е] |
| | • ta‘am | потравӯ |
| 5 | • buyurum | прошá[ж] |
| | • buyur[з] | чего[з] |
| | • ne var ne yok yeniden | што чӯвац новаго |
| | • varmadı | не бӣл |
| 6 | • vardı | бӣл |
| | • var mı | чи йест |
| | • yok | нет |
| | • nederler | начто |
| | • dur | стой |
| | • bunda | тӯт |
| | • yayaş | паволи |
| 7 | • hemen[і] | нелѕ́а[і] |
| | • daha | йешче |
| | • biyük | великӣ |
| | • küçek | малӣ |
| | • sofra | стол |
| | • duruyur | стайиц |
| 8 | • dürlü | род сорѓ ‘или ґатӯнек |

---

[а-в] Тры арабскія словы [г] Няяснае слова, пакінутае ўкладальнікам безь перакладу. Магчыма =тур. *doğru* [д] Памылкова напісанае слова, выпраўленае побач [е] тур. 1 pl. imperat.: ‘давай паямо’ [ж] =пол. *proszę* [з] Ветлівае перапытаньне, ‘калі ласка? чаго жадаеце?’. Гл. тс. 6а$^3$, 6а$^7$ [і] =рас.; тур. *hemen* ‘зараз жа, адразу; амаль што’. Пераклад памылковы, магчыма пазычаны з 10б$^6$

[2б]

| | | |
|---|---|---|
| 1 | • ben bunu satarım kim isterse satın alın | йа гето прада́йў хто хоче кўпиц собе |
| | • istemem | ни хачў |
| 2 | • daha kendi gezerim[а] | йешче сам йе́здзиц[а] |
| | • kendi kullarınıṅ | сам бўду заживац |
| 3 | • ne kadar pahası | йак йано дора́го |
| | • kaç gruş[б] | колко лев[б] |
| 4 | • satar mısın bunu bu şey | пра́да́йеш ты̦ гетўйў реч |
| | • nerede satarlar | гдзе прада́йўц |
| 5 | • davranma ateş yokarım[в] | |
| | • bir damla[г] | |

[3а]

| | | |
|---|---|---|
| 1 | • bir anadan biz kardeşim | а̃дной матќи мы̦ браце[д] |
| | • ben biyük | йа старши |
| 2 | • naslı seniṅ ismi | йак тва́йо име |
| | • benim ismi | майо име |
| | • ya bunun ismi | йак йаго име |
| 3 | • ben bukün uruç tutayrım | йа с̀агоња бост[е] тримайў |
| 4 | • kaç kün bayrama | за много дзон байра́м[ж] |
| | • bir hafta | а̃дзин тидзен |
| 5 | • [з]kaçdur | сколко |
| | • su | вода́ |
| | • ol kadar | такой[з] |
| 6 | • mezata ver | бўсци[і] на лицитацийў[к] |
| | • [з]olmadı | не хва́тило[з] |

---

[а] тур. ‘яшчэ сам езьдзіць буду’ [б] груш (< лац. grossus; тс. куруш або піястар), грашовая адзінка Асманскай імпэрыі, срэбная манэта, уведзеная султанам Сюлейманам II у 1687 г. У Рэчы Паспалітай традыцыйна называўся левам [в] тур. ‘ня рухайся, буду страляць’ [г] тур. ‘адна кропля’ Напісана рукою 3-га пісара [д] *браце* — voc. sg. [е] [п-] [ж] < тур. *bayram* ‘сьвята’; магчыма, курбан-байрам [з-з] 5-ты радок і другое слова 6-га напісаныя рукою 3-га пісара [і] [п-] [к] < пол. *licytacja*

[3б]

| | | |
|---|---|---|
| | • [а]ben | йа |
| | • sen | тй |
| | • | он[а] |

[5а]

| | | |
|---|---|---|
| 1 | • bari hudadan[б] | од бога жеда́йу[б] |
| | • kerek dilerse türk dili | кали хочеш |
| | ükrenmeye ürötmeye | тўрецкаго йезика розўмец |
| 2 | | наўчиц́е |
| | • bilmeli bu süzleri | знаци гетийе слова |
| | • bu ‘atları | гетийе имона |
| | • her şeye | на вшистко[в] |
| 3 | • nederler | нашто |
| | • kerek dilerse | кали хочеш |
| | • bilmeli | розўмец |
| | • şitmeli | слўхац |
| | • dinnemeli[г] | послўшнемў[г] |
| 4 | • kulak utut dinne hem | ўхо тримай прислўхай |
| | işit müsülman dili islam dini | йешче и чўй мўсўлмансќи |
| 5 | | йазик ис́ламскей вери |
| | • layıkdur hem farz erlere | належи фарз[д] мўшчине |
| | hem ‘avretleri | йешче и кобетам |
| 6 | hem çuçakları | йешче и дзецем |
| | • size ve bize | вам и нам |
| | • lazım | треба |
| | • minasib | належи[е] |
| 7 | • allah te‘ala yardım ayleye | боже допомажи |
| | • hem bu dunyada | йешче на гетим с́веце |
| | • hem ahiretde | йешче и на тамтим |
| | | с́веце |

---

[а-а] Тэкст на старонцы 3б напісаны рукою 3-га пісара [б] тур. ‘ад Творцы Ўсявышняга’ [в] =пол. *wszystko* [г] тур. necessitativus: ‘трэба, неабходна слухаць’ [д] < тур. *farz* (< ар.) ‘належныя ўчынкі й паводзіны як рэлігійны абавязак мусульманіна’ [е] =пол. *należy*

[5б]

| | | |
|---|---|---|
| 1 | • lazımdur bilmeli | потреба знаци |
| | • bu mübarek[а] dili | гети виншӯйӯ[а] йенз̣ик[б] |
| | • bu süzleri | гетийе слова |
| 2 | • kerek namazda | хоц ӯ немаз́е[в] |
| | • ve kerek kabirde | хоц ӯ магиле |
| | • ve kerek du'ada | хоц ӯ дӯ'аи[г] |
| | • her yerde | на каж̣дим мейсцӯ |
| 3 | • iski iski | од давнейшаго часӯ[і] |
| | • evveli allah | берший[д] бог |
| | • kök yarattı | небо ӯтворил |
| | • melek[е] yarattı | небо[е] ӯтворил |
| 4 | • yıldız | з̣орй̩ |
| | • ay | мес̀ец |
| | • küneş | слонце |
| | • suńra yer adam peygamber yarattı | потим з̣ з́еми[ж] а̄дам пророка ӯтворил |
| 5 | • bir adam | йеден чловек[з] |
| | • başı | галава |
| | • 'ahzı | рот |
| | • tuhum | нас̀ено |
| | • dudakları | гӯбй̩ |
| | • dişleri | з̣ӯбй̩ |
| | • dil | йез̣ик |
| 6 | • küzleri | очи |
| | • percem | влоси[і] |
| | • kaşları | брова |
| | • kirpekleri | вейалќи[к] |
| | • can | дӯша |
| | • yürek | серцо |
| 7 | • ciker[л] | вантробй̩[л] |
| | • şkenbe[м] | плахи (?)[м] |
| | • barsakları | ќишќи |

[а] тур. *mübarek* (< ар.) 'блаславёны' [б] =пол. *język* [в] < тур. *namaz* (< фарс.) 'малітва ў ісламе' [г] < тур. *dua* (< ар.) 'малітва, зварот з просьбай да Бога' [д] [п-] [е] тур. *melek* 'анёл' [ж] =пол. *z ziemi* [з] =пол. *jeden człowiek* [і] =пол. *włosy* [к] *веялкі* 'вейкі' (СПЗБ, 1, 305) [л] тур. 'печань; лёгкія' [м] ст.бел. *фляки* 'трыбухі, рубцы' 1578 (Булыка, 117); форма *пляхі* не засьведчана

| | | |
|---|---|---|
| | • elleri | рўки |
| | • parmakları | палци |

[6a]

| | | |
|---|---|---|
| 1 | • tırnakları | ногци |
| | • ayakları | ноги |
| | • tapokları | костки[а] |
| | • dizleri | калени |
| | • kübeg | бўп[б] |
| | • zekeri | шлўнек[в] |
| 2 | • sa'a | здáров |
| | • hasta | хори[г] |
| | • üldü | ўмар[д] |
| | • ecel keldi | ѐмерц пришле[е] |
| | • kitdi | пашов |
| | • keldi | пришов |
| 3 | • kaldı | заставѐе |
| | • vardı | бив |
| | • varmadı | не бив |
| | • var mı | чи йест |
| | • yok | немаш |
| | • buyur | прошá[ж] |
| 4 | • asselam 'eleyküm | привеѓ |
| | • nicesi keyfe ne imi | йак ѐе ти маш[з] |
| | • şükür elhamdü lillahi | хвáла богў |
| 5 | • ne var ne yok yeni | што чўвац новеѓо[і] |
| | • sa | здáров |
| | • hasta | хори[к] |
| | • ecel keldi | ѐмерц пришла |
| 6 | • kitdi | пашов |
| | • keldi | пришов |
| | • kaldı | заставѐе |

---

[а] 'косткі на назе, шчыкалаткі' [б] [п-] [в] тур. *zeker* 'membrum virile'. У гэтым значэньні *шлунек* выступае і ў кітабе Казанскага Ўнівэрсытэту (76а[7]) (Запісы, 21, 110); у іншых гаворках значэньне не зафіксавана. Магчыма, кантамінацыя словаў *шлункі*, *шлуньне* 'вантробы' і пол. *członek* [г] =пол. *chory* [д] =пол. *umarł* [е] Пра *-е* замест *-а*: Ант. 285 [ж] [-а], недакладнае напісаньне [з] =пол. *jak się ty masz*; пар. 6а[7] [і] =пол. *nowego* [к] =пол. *chory*

| | | |
|---|---|---|
| | • vardı | бив |
| | • varmadı | не бив |
| | • varmı | чи йест |
| 7 | • yokdur | немаш |
| | • buyur[а] | чаго[а] |
| | • asselam ‘eleyküm | витане |
| | • nicesi keyfe ne imi | йак ćе ти майеш |

[6б]

| | | |
|---|---|---|
| 1 | • şükür elhamdü lillahi | хва́ла богӯ |
| | • ne var ne yok yeniden | што чӯвац новеґо[б] |
| | • sen nicesi keyfe ne imi[в] | |
| 2 | • elhamdü lillahi | хва́ла богӯ |
| | • nereden kelüb | сконт идзеш[г] |
| | • stanbuldan keldim[д] | станбӯлӯ пришов[д] |
| 3 | • şurçu‘a kiderim | до рушчӯку[е] пайдӯ |
| | • pazara kiderim | на таргависко пайдӯ |
| | • itmek alırım[ж] | хлеба уза́ц[ж] |
| 4 | • et | менса[з] |
| | • işi var | дзело йест |
| | • kaç para harçattı | веле пар[і] експенсова́л[к] |
| | • yikir[mi] beş | два́йац пац |
| 5 | • rubası kaydım[л] | одзено ӯложиц[л] |
| | • koşandım[м] | подпасацćе[м] |
| | • eylenmem[н] | зачекай[н] |
| 6 | • beraber kiderim | ра́зем пойде[о] |
| | • bir sa‘at | йедней ґодзини[п] |

[7а]

| | | |
|---|---|---|
| 1 | • ev yabmaya | дом робиц |

---

[а] гл. 2а[5] [б] =пол. *nowego* [в] Фраза пакінутая безь перакладу. Гл. 6а[4], 6а[7] [г] =пол. *skąd idziesz* [д] тур. 1 sg; *станбӯлӯ* < *з станбӯлӯ* [е] Рушчук (тур. Ruşçuk), турэцкі назоў балгарскага гораду Русэ [ж] тур. ‘хлеба вазьму’ [з] =пол. *mięsa* [і] Пара (тур. *para* < фарс.), у XVII-XX стст. срэбная, ад 1844 медная манэта (40 пара = 1 груш) [к] =пол. *ekspensować* ‘выдаткаваць’ [л] тур. 1 sg praet. [м] тур. 1 sg praet. [н] тур. ‘я доўга не затрымаюся’ [о] =пол. *razem pójdę* [п] =пол. *jednej godziny*

| | | |
|---|---|---|
| | • pençeri | окна |
| | • kapı | дзвери |
| | • soba | пец[а] |
| | • ev tavanı | сталава́но[б] |
| 2 | • hazır oldu | гатово стало |
| | • satacayım | преда́м |
| | • kiderim gayri memlekette | пайдў до иншаго мемлеќе́ту[в] |
| 3 | • tarla sürmeye | ора́ц |
| | • tepeye komalı[г] | ўкопи[г] |
| | • eve kidermeli | додому спра́ва́дзиц |
| | • kaç araba | веле фўр[д] |
| 4 | • harçattım | з̣еќспенсевал[е] |
| | • sattın | кўпиц |
| | • ahça | грошей |
| | • as | мало |
| | • mapeticay[ж] | |
| | • ödünç alıram | паз̣иджў[з] |
| 5 | • ot bicmeye | ко́сиц |
| | • urak bicmeye | ж̣ац |
| | • dövmeli[і] | биц[і] |
| | • deyermene çekmeli[к] | до млина[к] |
| 6 | • un ütmeye | на мўку малоц |
| | • itmek bişür | хлеб печи |
| | • daha kazanayam | йешче заробе[л] |
| | • işi kalmadı | роботи не стало |

[7б]

| | | |
|---|---|---|
| 1 | • düvşürmeye[м] | се́но гра́пце[м] |
| | • kuru mı | ци сўхо |
| | • çi[н] | мокро[н] |

---

[а] =пол. *piec* [б] *сталяваньне* 'столь' (СПЗБ. 4, 568; ДАБМ, №228) [в] тур. *memleket* (< ар.) 'краіна, край; акруга, раён' [г] тур. 'наверсе пакласьці', беларускі адпаведнік няясны [д] ст.бел. *фура* 'вялікі воз' 1578 (Булыка, 120) [е] гл. 6б[4]; [-о-] недакладнае напісаньне (прапушчаны ﻭ) [ж] Слова няяснае, пакінутае ўкладальнікам безь перакладу [з] [-ч-] [і] тур. necessitativus: 'трэба біць, таўчы, малоць' [к] тур. 'да млына трэба завезьці' [л] =пол. *zarobię* [м] тур. 'зьбіраць'; [-и] магчыма, памылка (фатха замест кясры) [н] тур. 'раса'; *мокро* — кантэкстуальны эквівалент

| | | |
|---|---|---|
| | • beygir ver | конӯ да́й |
| 2 | • koş arabaya beygiri | ӯ вос запра́гай кона |
| | • çok eylendi | веле забавил |
| | • olmaz | неможно |
| | • küç | трӯдно |
| 3 | • ‘aklım kayattı | ро̨зӯм [а]пот́ерал[а] |
| 4 | • öküz | вол |
| | • inek | крова[б] |
| | • buza | целе[в] |
| | • beygir | кон |
| | • at taşaklı[д] | оќер[г] з́ йайками[д] |
| | • manda öküz | бӯйвол |
| 5 | • sütlü inek | млечне крова[е] |
| | • fena beygir | благи кон |
| | • kart ayakları | стари̦ ноги̦ |
| | • satarım | предам |
| | • panayır | ќермаш |
| 6 | • hevesim var mal satın olmaya | мам охота[ж] кӯпиц йеќеѓо[з] товарӯ |
| | • sevdim | лӯбе[і] |
| | • sevmedim | не лӯбе[к] |
| 7 | • vardım | билем[л] |
| | • varmadım | не билем[м] |
| | • lazım satın olmaya | треба кӯпиц |

[8a]

| | | |
|---|---|---|
| 1 | • pazar | таргависко |
| | • alış veriş[н] |ганда́л вес́ци[н] |
| | • bezirgan | кӯпец |
| | • lazım ketürmeye[о] | треба на ќермаш[о] |
| 2 | • adam çok | веле лӯдзей |
| | • adamça kezer | йак чловеќ ходзиц |

[а-а] Слова дапісана рукою 3-га пісара [б] =пол. *krowa* [в] =пол. *cielę* [г] =пол. *ogier*; [-г-] [д] тур. ‘непакладаны конь’; прыклад даслоўнага перакладу [е] =пол. *mleczna krowa* [ж] =пол. *mam ochotę*; пра *-а* на месцы *-ę*: Ант., 344 [з] =пол. *jakiego* [і] =пол. *lubię* [к] =пол. *nie lubię* [л] =пол. *byłem* [м] =пол. *nie byłem* [н] тур. ‘гандаль’ [о] тур. ‘трэба несьці’

